***Пачатак студзеня ў Беларусі падобны на марскі адплыў пасля шторму: схлынула хваля масавых рэпрэсій, трэба разабраць выкінутыя на бераг гушчары судоў, звальненняў і забарон. Але музыка не змаўкае, пэндзаль макнуты ў фарбу, аловак кранууўся паперы, дух вольнага народа кружыць у карагодзе.***

*Затрыманні, суды*

*Ціск, звальненні, забароны*

*Рэпрэсіі за сімволіку*

*Творчы супраціў*

*Міжнародная салідарнасць*

# 1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ

***Алег Малашчанка,***
**вайсковы пенсіянер з Баранавіч, сям'я якога ініцыявала шэраг нацыянальных праектаў у Баранавічах, дамаглася адкрыцця беларускамоўнага класа ў горадзе, быў затрыманы і 30 снежня дэпартаваны ў Расію, таму што ў яго расійскі пашпарт. Суд спыніў рашэнне аб высылцы, але ўжо пасля таго як Алега дэпартавалі.**





***Крысціна ПАЛТАВЕЦ,***
***мастачка і выкладчыца выяўленчага мастацтва са Скідзеля, была затрыманая за нанясенне муралаў і надпісаў пра падзеі апошніх месяцаў.***
***Супраць яе распачатая крымінальная справа.***



# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ



***Міхаіл РЫБАКОЎ,** дырэктар Музея гісторыі беларускай літаратуры, звольнены. Пасля падзей 9-11 жніўня большасць супрацоўнікаў музея зрабілі фота з надпісам «мы супраць гвалту», якое размясцілі ў суполках музея і ў сетках. Сам Міхаіл таксама адкрыта выказваў сваю пазіцыю.*



***Ксеніі Князевай,** дацэнту кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў, вядомаму тэатральнаму крытыку, Акадэмія мастацтваў не працягнула кантракт.*



***Славе Камісаранка,** стэндап-коміку родам з Беларусі, ануліравалі гастрольныя пасведчанні на выступы ў Мінску. Артыст неаднаразова выказваўся пра фальсіфікацыю выбараў у Беларусі і асуджаў гвалт з боку сілавікоў.*







*Беларуская мытня*
*не прапусціла за заходнюю мяжу*
*раман Віктара Марціновіча «Рэвалюцыя».*
*А таксама затрымліваюць на мяжы*
*кнігу «Беларуская нацыянальная ідэя»*
*Змітра Лукашука і Максіма Гарунова.*
*Тое самае адбываецца з пасылкамі*
*крамы symbal.by.*





*Не першы месяц працягваецца ціск на беларускія культурніцкія пляцоўкі, многія з іх вымушаныя закрыцца.*
*У пачатку студзеня прыпынілі сваю дзейнасць: арт-паб «Торвальд» у Віцебску, і культурны хаб ОК16 у Мінску, дырэктаркай якога да пачатку выбарчай кампаніі была Марыя Калеснікава.*






*У абодвух выпадках фармальнай падставай для закрыцця сталі парушэнні, знойдзеныя МНС .*




***У сувязі з закрыццём прасторы ОК16, якая доўга давала жыццё многім важным праектам, адмененыя спектаклі незалежнага тэатра ТОК.***





***З Аляксеем Бацюковым, дырэктарам Музея гісторыі Магілёва, не падаўжаюць кантракт. Раней ён разам з шасцю падначаленымі падпісаў адкрыты ліст, у якім асуджалася жорсткасць супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Сярод патрабаванняў была адстаўка Лукашэнкі.***






***Незалежны Сучасны мастацкі тэатр (СХТ) вымушаны прыпыніць сваю дзейнасць, паколькі іх пазбавілі магчымасці паказваць спектаклі ў Беларусі.***





***Працягваюцца рэпрэсіі за бел-чырвона-белыя сцягі і іншую імволіку. Цягам апошніх двух тыдняў выпадкі, калі за гэта складалі пратаколы, давалі штрафы і суткі, зарэгістраваныя па ўсёй Беларусі: у Рэчыцы, Мінску, Віцебску, Гомелі, Наваполацку.***

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ






***Новая [музыка беларускага пратэсту] за першы навагодні тыдзень***




***Мода беларускай рэвалюцыі: як беларускія дызайнеры і дызайнеркі перадавалі летась дух часу [ў адзенні і аксесуарах.]***

***9 студзеня адбылася [анлайн-трансляцыя] спектакля-батлейкі.***







***Чацвёрты выпуск ужо рэгулярнага інтэрактыўнага [youtube-шоў «Годны двор».]***

***Калядны [анлайн-канцэрт] легендарнага Вольнага Хора, чые песні гучалі ў розных кропках краіны апошнія месяцы, адбыўся 10 студзеня. Хор упершыню выступіў з аркестрам.***





Anna Stakanova

*Мастачкі і мастакі
працягваюць адлюстроўваць
беларускую пратэставую рэальнасць
у сваіх працах.*



tasha_drugakova







*У беларускіх дварах,
нягледзячы на надвор’е і небяспеку
затрыманняў, адбываюцца выступы
музыкаў і святкаванне Калядаў,
а па ўсёй Беларусі людзі далучаюцца
да [танцавальнага флэшмобу]() Jerusalema –
і танчаць у нацыянальных колерах.*

# 4. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



*Кіеўскі тэатар драмы і камедыі*
*[прадставіў акторскае чытанне сведчанняў беларусаў,]()*
*якія сталі ахвярамі гвалту з боку сілавікоў пасля выбараў.*



***МУЗЫКІ Ў ПАДТРЫМКУ БЕЛАРУСІ:***

*Альбом* *расейскага гурта «Аркадий Коц»*






*Песня «Тот день, когда»* *ад расейскага гурта «Мумий тролль»*






*Беларускі Свабодны тэатр*
*уганараваны брытанскім прызам*
*The Stage Awards 2021 у намінацыі «Найлепшая міжнародная трупа».*

